



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета».

12+

22 чэрвеня 2018 года №25 (1208)


## Змяненні ў руху цягнікоў



старонка 3












ISSN 1991–7155




# «І сёння балюча здымаць вяселлі»

## Маладзечанец, у якога жонка памерла ў радзільні, распавёў, як жыве і гадуе сына

старонкі 20-21

Фота забяспечанае Ягорам МЫШУКОМ

### Маладую маму асудзілі за тое, што запосціла парнавідэа 8 год таму



старонка 4

### Абіраць прафесію варта так, як ствараць сям'ю. Не па разліку, а па любові



старонка 5

### Маладыя музыканты ставяць оперу ў Маладзечне пад кіраўніцтвам італьянскага маэстра



старонка 18

## Вілейка запрашае на свята моладзі

ВІЛЕЙКА

**Сёлетні фестываль субкультур у Вілейцы правядуць 30 чэрвеня.**

У межах «Энергіі маладосці» правядуць фестываль маладых выканаўцаў «Адна зямля».

**Праграма фестывалю «Энергія маладосці»**

**11:30-22:00.** Фестываль «Адна зямля» (плошча Леніна).

**12:00.** Адкрыццё фестывалю «Энергія маладосці», дзейнасць пляцоўкі «Планета навуковых цудаў» для дзяцей і моладзі (гарадскі парк).

**14:00.** Спаборніцтвы скейтараў (скейт-пляцоўка), танцавальны флэш-моб і дэфіле тэатра мод Вілейскага дзяржаўнага каледжа (сцэна на плошчы Леніна).

**15:00.** Спаборніцтвы варкаўтараў (гарадскі парк, пляцоўка для варкаўтынгу).

**15:30.** «Догіпарк» (Ніжні парк).

**22:00.** Рок-канцэрт (скейт-пляцоўка).

**22:30-00:00.** Фаер-шоу, дыскатэка (скейт-пляцоўка).

# Стала вядомая праграма фестывалю-конкурсу «Адна зямля»

ВІЛЕЙКА

**Часткай фестывалю «Энергія маладосці» ў Вілейцы стане юбілейная «Адна зямля».**




Максім Пашук са Смаргоні – уладальнік Гран-пры «Адной зямлі» ў 2015 годзе.

Дваццаты фестываль-конкурс маладых выканаўцаў «Адна зямля» правядуць у Вілейцы 30 чэрвеня.

**Праграма «Адной зямлі»**

**11:00-11:15.** Урачыстае адкрыццё.

**11:15-14:00.** Конкурс выканаўцаў першай і другой узроставых груп.

**14:00-15:00.** Канцэрт аматарскіх мастацкіх калектываў.

**15:00-17:30.** Конкурс выканаўцаў трэцяй і чацвертай узроставых груп.

**17:30-19:30.** Канцэрт эстрадна-джазавага ансамбля і аматарскіх мастацкіх калектываў.

**19:30-20:00.** Падвядзенне вынікаў, узнагароджанне пераможцаў.

«Адна зямля» – фестываль-конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні, які праводзяць па чарзе на Валожыншчыне і ў адным з раёнаў беларускага Павілля: Маладзечанскім, Вілейскім, Мядзельскім, Ашмянскім, Смаргонскім, Астравецкім.

Першапачаткова заснавальнікамі фестывалю сталі аддзелы культуры Маладзечанскага, Валожынскага і Ашмянскага райвыканкамаў і рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты». Пасля далучыліся прадстаўнікі іншых раёнаў Павілля.

Першы фестываль адбыўся ў 1999 годзе на стадыёне ў Чысці.

Штогод рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты» ўручае аднаму з удзельнікаў прыз глядацкіх сімпатый.

Летась фестываль-конкурс «Адна зямля» ладзілі ў Смаргоні.

**Аддзел інфармацыі.**




### 1. Атрымаць газету – гэта як схадзіць у рэстаран

Штодзень мы харчуемся як атрымаецца, каб паспець і падсілкавацца, і выканаць усе справы. Гэтак жа і з навінамі і інфармацыйнай прасторай – што паспелі, тое і ўхапілі.

Аднак газета – крыху іншы прадукт. У ёй мы, як повар у рэстаране, які падае самую лепшую страву. **Дазвольце сабе прыемную «вячэру» раз на тыдзень – спакойнае, разважлівае, душэўнае чытво** ў прыемнай абстаноўцы. А мы абяцаем старацца падаваць толькі тыя «стравы», ад якіх пальчыкі абліжаш.

### 2. Хопіць шукаць яе і чакаць. Няхай яна чакае вас.

Сучасная інфармацыя – як дзяўчына, якую вы чакаеце на спатканне. Пакуль вы знойдзеце тое, што трэба, час ляціць незаўважна хутка. Успомніце вечары, калі вы гадзінамі выбіралі, што за фільм паглядзець за вячэрай.

У газеце мы падрыхтавалі **самае важнае, што трэба ведаць жыхару Павілля**. І газета сама прыйдзе ў вашу паштовую скрыню і будзе вас чакаць.

### 3. Станьце часткай «брацтва».

**Падпісчыкі аднаго выдання – гэта супольнасць, якую аб'ядноўваюць блізкія інтарэсы.**

Супольнасць падтрымлівае кожнага і дапамагае вырашаць складанасці, калі ўзнікаюць у аднаго з удзельнікаў.

Звяртайцеся да рэдакцыі ці іншых чытачоў, каб атрымаць дапамогу ў складаных сітуацыях, падтрымку ці проста аўдыторыю, з якой прыемна падзяліцца тым, што важна для вас.

### 4. Далучыцеся да місіі і каштоўнасцяў, якія транслюе «Рэгіянальная газета».

Кожнаму з нас неабходна не толькі займацца штодзённай руцінай, але і далучацца да чагосьці на ўзроўні місіі. Няхай часткай вашай справы-місіі стане падтрымка «Рэгіянальнай газеты».

**Мы працуем для людзей, якія з павагай ставяцца да мінулага, з надзеяй глядзяць у будучыню, а сваё сёння будуюць самі.**

Мы ствараем асяродак, які клапоціцца аб захаванні беларускай мовы і з'яўляемся адной з нешматлікіх папяровых газет краіны цалкам на беларускай мове.

Мы паказваем, што праца на лакальным узроўні не менш цікавая, а часам і больш важная, чым у сталіцы.

### 5. Мець пра што паразмаўляць з кім заўгодна.

Няёмкае маўчанне, пакуль падымаецеся з суседам па лесвіцы, ці калі едзеце з далёкімі сваякамі, або нават калі звычайны заход да дзяўчыны ці яе мамы не прайшоў. Сітуацыя, калі не ведаеш, што сказаць, проста забівае.

**Чытайце «Рэгіянальную газету» пастаянна, і вам заўсёды будзе што абмяркоўваць. Прычым на самых розных узроўнях.** Пагавараць пра самыя балючыя праблемы ў мясцовасці, завесці інтэлектуальную гутарку пра культурнае жыццё і гісторыю альбо пра спорт.

**А самае галоўнае – абавязкова падпішыце на «РГ» бабулю і дзядулю – хай яны будуць зоркамі інфармацыі сярод сяброў.**

**Аформіць падпіску можна**

- праз сайт «Белпошты» (заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Алфавітны», тып падпіскі «Індывідуальная» ці «Ведамасная», ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 63212 (632122 – «Рэгіянальная газета»);
- на пошце;
- праз паштальёна;
- праз плацежна-даведачны тэрмінал.

Падпісны індэкс: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).

**Цэны на другое паўгоддзе 2018 года:**

Індывідуальная падпіска на месяц – 3,79 рубля.

Ведамасная падпіска на месяц – 11,22 рубля.

# Завод металаканструкцый заявіў пра банкруцтва

**МАЛАДЗЕЧНА**

Эканамічны суд Мінскай вобласці распачаў вытворчасць па справе аб эканамічнай неплацежаздольнасці (банкруцтве) ААТ «Маладзечанскі завод металаканструкцый» (МЗМК) і адкрыў ахоўны перыяд тэрмінам адзін месяц.

На працягу трох апошніх гадоў завод працуе са стратамі. Як вынікае са справаздачнасці МЗМК, выручка прадпрыемства ў 2017 годзе вырасла да 22 мільёнаў рублёў, што на 9,1 мільёна рублёў больш у параўнанні з 2016 годам. Чыстыя страты знізілася з 7,5 мільёна да 4 мільёнаў рублёў.

Крэдыторская запазычанасць МЗМК на момант падачы дакументаў у суд складала 30,1 мільёна рублёў, тады як актывы – 18,3 мільёна. У дачыненні да завода было распачата 414 выканаўчых вытворчасцяў на суму 14,9 мільёна беларускіх рублёў і 24,9 мільёна расійскіх рублёў.

**Паводле tut.by.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 14.06 | 21.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0103 | **2,0052** |
| Еўра | 2,3617 | **2,3197** |
| Злоты, 10 | 5,5214 | **5,3729** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,1882 | **3,1516** |
| Грыўня, 100 | 7,6960 | **7,5696** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **13.06** | **20.06** |
| Еўра | 2.3400/2.3650 | **2.3106/2.3306** |
| Долар ЗША | 2.0010/2.0120 | **2.0000/2.0180** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | **13.06** | **20.06** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,68 | **18,68** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | **1,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Алей «Залатая семачка», 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 0,89 | **0,80** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Бульба, 1 кг | 1,60 | **1,20** |
| Буракі, 1 кг | 1,69 | **1,70** |
| Капуста, 1 кг | 1,20 | **1,00** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,65 | **1,20** |
| Морква, 1 кг | 1,70 | **1,70** |
| Памідоры, 1 кг | 2,60 | **2,50** |
| Перац, 1 кг | 5,90 | **5,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,00** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,90 | **3,30** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Вінаград, 1 кг | 4,80 | **4,80** |
| Гранаты, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,30** |
| Грэйпфруты, 1 кг | — | **3,50** |
| Кавун, 1 кг | 2,50 | **2,00** |
| Ківі, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Клубніцы, 1 кг | 2,80 | **2,70** |
| Лімоны, 1 кг | 4,80 | **4,80** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 6,80 | **4,50** |
| Чарэшня, 1 кг | 5,00 | **4,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,95 | **1,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

Курсіраванне цягнікоў міжнародных і міжрэгіянальных шляхоў зносін

**ПАВАЖАНЫЯ ПАСАЖЫРЫ!**

БЧ

## Ад 27 чэрвеня

мяняецца графік руху цягнікоў рэгіянальных ліній бізнес-класа:

## №749/750 Мінск – Полацк – Мінск

цягнік ходзіць штодзённа (акрамя 29 чэрвеня)

## №749/750 Мінск – Полацк

• адпраўленне ад **ст. Мінск** у **06:33**
• прыбыццё на **ст. Маладзечна** ў **07:36**
• адпраўленне ад **ст. Маладзечна** ў **07:47**
• прыбыццё на **ст. Полацк** у **10:34**

## №750/749 Полацк – Мінск

• адпраўленне ад **ст. Полацк** у 16:27
• прыбыццё на **ст. Маладзечна** ў 19:00
• адпраўленне ад **ст. Маладзечна** ў 19:08
• прыбыццё на **ст. Мінск** у 20:10

**Цягнікі робяць прыпынкі па станцыях: Вілейка, Параф'янаў, Крулеўшчына, Падсвілле.**

---

Мяняецца графік руху цягнікоў рэгіянальных ліній бізнес-класа:

ад 25 чэрвеня **№745 Мінск – Ліда**
**адпраўленнем да ст. Ліда ў 20:14**
**адмяняецца;**

ад 26 чэрвеня **№742 Ліда – Мінск**
**адпраўленнем да ст. Мінск у 22:13**
**будзе ісці ў панядзелак, аўторак, сераду, чацвер, нядзелю;**

ад 1 ліпеня **№746 Ліда – Мінск**
**адпраўленнем да ст. Мінск у 08:32**
**будзе ісці ў суботу, нядзелю**

Падрабязную інфармацыю можна атрымаць ў даведачным бюро вакзала ці па тэлефонах: **74-24-23, 105**

## Амаль 30 кілаграмаў рыбы выгрузіў у лодку, а сетку выкінуў у ваду: на Вілейскім вадасховішчы затрымалі браканьера

ВІЛЕЙКА

Шкоду амаль у тры тысячы рублёў нанёс навакольнаму асяроддзю жыхар Вілейкі.

На падазронага рыбака на Вілейскім вадасховішчы супрацоўнікі Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету звярнулі ўвагу 17 чэрвеня каля дзевяці вечара.

Мужчына на лодцы з ПВХ імітаваў рыбалку вудай. Падчас скрытага назірання спецыялісты заўважылі, што рыбак дастаў з вады сетку, вытрас рыбу да сябе ў лодку, а сетку кінуў назад у ваду.

Каля берага мужчыну затрымалі. Забаронены ўлоў важыў 27 кілаграмаў, пераважна акунь, плотка, лешч і судак.

Затрыманы – 39-гадовы жыхар Вілейкі, які нідзе не працуе. Ён сцвярджаў, што сетка яму не належыць. Аднак адказнасць панясе, бо па правілах рыбалоўнай гаспадаркі забараняецца здымаць чужыя сеткі і забіраць з іх рыбу. Гэта ўсё роўна незаконная здабыча.

Супраць фігуранта ўзбудзілі крымінальную справу.

– Хочацца нагадаць, што варварскія адносіны да прыроды ўрэшце прывядуць да адказнасці. Ці варта рызыкаваць? – кажа начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі **Валеры Кляноўскі.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У агародах на Мядзельшчыне знайшлі мак

МЯДЗЕЛ

Падчас рэйдавых мерапрыемстваў міліцыянеры знайшлі на Мядзельшчыне поле дзікага маку.

Крыху пазней забароненую расліну знайшлі ў прыватных агародах. Супраць двух вяскоўцаў пачалі адміністрацыйныя працэсы.

Пра мак на агародах паведаміў мясцовы жыхар. Праверка пацвердзіла інфармацыю. У міліцыянераў ёсць падставы лічыць, што мак тут рос невыпадкова.

## Віляйчанка забылася ў магазіне кашалёк з грашыма і банкаўскімі карткамі. Прыйшла шукаць – і не знайшла

ВІЛЕЙКА

12 чэрвеня ў міліцыю звярнулася 52-гадовая жыхарка Вілейкі з заявай пра знікненне кашалька.

Жанчына хадзіла ў адзін з магазінаў і забылася там кашалёк.

У кашальку былі банкаўскія карткі і іншая маёмасць на суму 145 рублёў. Калі яна вярнулася, каб забраць забытую рэч, кашалька на месцы не аказалася, паведамляе УУС Мінаблвыканкама.

Падчас праверкі высветлілі, што кашалёк забрала мясцовая 51-гадовая віляйчанка. Завялі крымінальную справу.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



# Маладую маму асудзілі за тое, што запосціла парнавідэа 8 год таму

МАЛАДЗЕЧНА

**Суд Маладзечанскага раёна вынес прысуд у адносінах да 24-гадовай жыхаркі Маладзечна.**

У 2010 годзе яна размясціла на сваёй старонцы «Укантакце» ў свабодным доступе відэа парнаграфічнага зместу. Яго не адзін раз паглядзелі і скапіравалі іншыя карыстальнікі.

Падчас суда абвінавачаная прызнала сябе вінаватай цалкам. Жанчына патлумачыла, што ў 2010 годзе знайшла ў інтэрнэце відэа, якое тады падалося «прыкольным». Размясціла на сваёй старонцы. Яна не ведала, што відэа з'яўляецца парнаграфічным. І калі размясціла яго ў свабодным доступе на старонцы, становішся распаўсюднікам парнаграфіі.

Калі гэта патлумачылі міліцыянеры, жанчына выдаліла сваю старонку ў сацыяльнай сетцы.

Паводле санкцыі артыкула, прадугледжанае пакаранне толькі ў выглядзе пазбаўлення свабоды ад двух да чатырох год.

Аднак суд улічыў, што абвінавачаная раней не прыцягвалася да крымінальнай адказнасці, мае станоўчыя характарыстыкі з вучобы і працы і раскаялася ў здзейсненым. Да карціны дадалі тое, што жанчына гадуе дваіх малых дзяцей.

Таму суд вынес такое пакаранне: пазбаўленне свабоды на два гады з адтэрміноўкай на год. Гэта значыць, што калі ў гэты год жанчына законапаслухмянымі паводзінамі дакажа сваё выпраўленне, суд можа прыняць рашэнне аб вызваленні ад прызначанага пакарання.

Прыгавор не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны.

**Аліна УТКІНА,**
**старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

● УВАГА, ВЫШУК!

## Маладая жанчына пайшла з дому і не вярнулася

ВАЛОЖЫН



Валожынскі райаддзел Следчага камітэта вышуквае **Іну Аляксееўну Кананові.**

Яна нарадзілася 20 ліпеня 1990 года ў вёсцы Горталь Івацэвіцкага раёна.

Часова жыла ў Ракаве. 5 красавіка пайшла з дому ў Ракаве невядома куды. Назад не вярнулася і дагэтуль невядома, дзе яна.

Жанчыне на выгляд 25-30 год. Рост 160-174 сантыметры. Целасклад сярэдняй паўнаты, бледны еўрапейскі твар. Шэрыя вочы, прамыя цёмна-русыя валасы, якія звычайна збірае ў «хвосцік».

Глухі голас, гаворыць хутка. Памер абутку 40-41.

Калі вы штосьці ведаеце пра месцазнаходжанне зніклай, калі ласка, паведаміце па тэлефонах: (801772) **55-131, 62-096, 55-302, 54-021,** (8029) **685-53-02, 507-66-98** ці **102.**

**Дар'я МІХАЙЛАВА, старшы следчы Валожынскага РАСК.**



## «Астравок бяспекі» з'явіўся ў садку

СМАРГОНЬ

**Дзяцей заўсёды цікавіць вуліца і ўсё, што на ёй адбываецца. Часта, захопленыя чым-небудзь незвычайным, яны трапляюць у небяспечныя сітуацыі.**



Таму важна навучыць дзяцей выконваць правілы дарожнага руху.

У яслях-садку №13 у Смаргоні рэгулярна надаюць увагу бяспецы дзяцей, а таксама ўзбраенню іх ведамі ў гэтым накірунку.

Для павышэння бяспекі дзяцей мы і абсталявалі ў садку пляцоўку «Астравок бяспекі».

На асфальце афармілі разметку з пешаходным пераходам, раздзяляльнай паласой, скрыжаваннем, дзе нашы дзеткі могуць штодня практыкавацца ў выкананні правілаў дарожнага руху.

Ёсць атрыбуты для правядзення ролевых гульняў, макеты машын, касцюмы розных службаў па бяспецы. Для абыгрывання розных дарожных сітуацый абсталявалі запраўвачную станцыю, бензакалонку, мыйку для машын, станцыю тэхабслугоўвання, дарожныя знакі, святлафор.

Дзеці вучацца правільна пераходзіць дарогу, рэгуляваныя і нерэгуляваныя скрыжаванні, правільна паводзіць сябе на прыпынку пасажырскага транспарту.

Нашы выхаванцы ведаюць, што па вуліцы трэба хадзіць спакойным крокам, пераходзіць дарогу толькі па пераходзе пры зялёным сігнале святлафора, ведаюць дарожныя знакі.

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ, намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці ясляў-сада №13 Смаргоні.**



# Абіраць прафесію варта так, як ствараць сям'ю.
## Не па разліку, а па любові

Фота: salesprogress.com.

**Пасведчанні і атэстаты атрыманы, кветкі любімым настаўнікам падораны, выпускныя адгуляныя. Наперадзе – паступленне. Якую ўстанову выбраць, як не памыліцца і не застацца пасля з дыпломам, але без працы? Якія дакументы сабраць і як не спазніцца з падачай дакументаў?**

Піша Ксенія ДУРОВІЧ.

Падобныя пытанні азмрочваюць летні настрой бацькоў і выпускнікоў школ. Мы падрыхтавалі парады для тых, хто ў гэтыя летнія дзянькі абірае, дзе вучыцца ў бліжэйшыя некалькі год.

### Суаднясіце попыт і прапанову

Прааналізуйце сітуацыю на рынку працы ў сваім рэгіёне. Паглядзіце, які попыт, якія прапановы, звярніце ўвагу на самыя запатрабаваныя прафесіі.

Напрыклад, сёння на Маладзечаншчыне і Вілейшчыне патрэбныя спецыялісты ў сельскай гаспадарцы: аграномы, ветэрынарныя дактары, трактарысты, жывёлагадоўцы. Шмат прапаноў для кіроўцаў аўтамабіляў. Хутчэй за ўсё, не застануцца без працы ў гэтых рэгіёнах выхавальнікі дзіцячых садкоў і медыкі.

### Выбірайце прафесію згодна з уласнымі асаблівасцямі і захапленнямі

Памятайце, што абраная прафесія павінна адпавядаць фізічным і маральным здольнасцям чалавека, яго псіхічным асаблівасцям, стану здароўя, захапленням, ведам і ўменням. Скажам, калі вам падабаецца арганізоўваць іншых людзей, быць лідарам, падумайце аб прафесіях, дзе трэба працаваць з калектывам: менеджар, педагог, трэнер.

Калі любіце хімію і біялогію, гатовыя дапамагаць людзям, да таго ж вытрыманыя і стрэсаўстойлівыя, хутчэй за ўсё, знойдзеце сябе ў медыцыне.

### Задумайцеся пра адказнасць

Выбар будучай прафесіі – адзін з самых галоўных крокаў у жыцці, які можна параўнаць са стварэннем сям'і. Таму рабіце гэты выбар не толькі па разліку, але і па любові да будучай прафесіі.

Абавязкова задумайцеся пра тое, якую меру адказнасці мусяць несці спецыялісты абранай вамі прафесіі. І калі зможаце – дзейнічайце. Выбар прафесіі павінны быць планамерным і абдуманым да дэталяў.

### Развянчайце стэрэатыпы

**1. «Галоўнае, выбраць тую прафесію, якая прыносіць шмат грошай».**

Арыентавацца на ўзровень заробкаў – не самы правільны падыход. Час мяняецца, мяняецца і прэрагатывы рынку. Учора было крута распрацоўваць камп'ютарныя праграмы, заўтра з'явіцца нейкая новая прафесія і перацягне на сябе высокія заробкі. Яшчэ ў пачатку 2000-х шмат выпускнікоў ішлі на эканамістаў і юрыстаў. Гэта было модна і лічылася прэстыжнай прафесіяй, якая ў будучым павінна забяспечыць дабрабыт. Сёння сітуацыя змянілася, і многія спецыялісты з гэтымі спецыяльнасцямі незапатрабаваныя.

Выбіраць прафесію, якая быццам бы будзе прыносіць шмат грошай, – небяспечны шлях. Вы можаце патрацframework маладыя гады на тое, чым вам будзе моташна займацца ўсё далейшае жыццё.

Дабрабыт не вымяраецца колькасцю зробленых грошай. Кожны пражыты дзень нельга вярнуць, а тым больш тры-пяць гадоў, якія вы патраціце на непатрэбныя веды.

Калі вы пойдзеце па гэтым шляху, магчыма, у вас будзе крыху больш грошай, чым у суседа, але шчасця і маральнага задавальнення яны вам не прынясуць.

**2. Калі я не паступлю ў ВНУ, здарыцца трагедыя.**

На самой справе, няма нічога страшнага ў тым, што год пасля школы вы скарыстаеце на больш якасную падрыхтоўку да паступлення. Да таго ж, ёсць нядрэнныя варыянты ў сярэдніх спецыяльных навучальных установах для абітурыентаў, якія скончылі 11 класаў. За год можна атрымаць добрую спецыяльнасць, а ўжо пасля паступіць у жаданую ВНУ.

Больш за тое, некаторыя каледжы прапануюць пэўныя спецыяльнасці толькі для выпускнікоў 11 класаў. Прыём дакументаў у сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы пачынаецца значна пазней, чым у вышэйшыя.

**3. Бацькі ўжо выбралі за мяне, куды мне ісці.**

Не варта зусім без пярэчанняў прымаць выбар бацькоў. Вы шмат былі ім абавязаныя, але яны не могуць вырашаць за вас. Не спяшайцеся пагаджацца, калі бацькі настойваюць на юрыспрудэнцыі, а вам падабаецца медыцына.

**Толькі ад вас залежыць ваш лёс, а не ад іх. Ідзіце сваім шляхам. Слухайце ўласную інтуіцыю.**






# Куплю
# Прадам
# Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804**, 8 (029) **6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **75617.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **61385.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. (801771) **20083, 20103.**
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

# ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Опель-Рэкорд па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Пежо-206, 2000 г.в., 2,0 HDI, 5800 руб. Т. (8-044) 4132598, (8-025) 5306817.

• Ровар дарожны, матаровар, балон газавы бытавы. Т. (8-0176) 532172, (8-044) 4944849.*

• Рэно-Меган 1997 г. па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• ФВ-Гольф, 1985 г.в., 900 руб, торг. Т. (8-029) 8755384.

• ФВ-Пасат В3, 1990 г.в., 1,8Б. Т. (8-01771) 53726, (8-029) 5683934.

• ФВ-Пасат, 1991 г.в., 1,8 бензін, па запчастках. Т. (8-029) 6232553.*

• ФВ-Пасат, 1993 г.в., турбадызель. Т. (8-029) 3983546.

• Электрабайк новы, з гарантыяй. Магутны матор 1500 W, батарэя 72v20ah, хуткасць 50 км/гадз. Т. (8-029) 1383623.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*





### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных паласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

• Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэекапальнік, вібраліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. ()8-029) 6926052.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына,12, корп. 1. Ёсць неабходная мэбля, бытавая тэхніка (халадзільнік, пральная машына), раён завода «Зеніт». Т. (8-029) 9184367.

• 2-павярховы дом у 3 км ад Смаргоні, 184 кв. м, 23 соткі зямлі, пабудовы. Т. (8-029) 9628737, (8-029) 2053764.

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмен на г. Мінск з даплатай. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, д.16, корпус 1, 4 паверх. Т. (8-029) 5581258.

• 2-пакаёвая кватэра, 44 кв.м, пакоі раздзельныя, добры рамонт, шклопакеты, дзверы міжпакаёвыя і ўваходныя, ламінат, убудаваная кухня. Цана дагаворная. Т. МТС (8-029) 8594682.

• 2-узроўневы дом у Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі, альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, 2 у добрым стане. Т. (8-029) 7039162.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Вольнай на другім паверсе альбо мяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693, (8-0176) 531545.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Маркава, 2/2. Т. (8-029) 2507130, (8-029) 2521951.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Чкалава. Т. (8-029) 5948745.*

• Гараж ГБПК-5 у Смаргоні, 2000 руб. Т. (8-029) 7875173, (8-01592) 26531.

• Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*

• Дом паміж Смаргонню і Вілейкай, участак 25 сотак, цана 3000 руб; участак у Вілейцы. Т. (8-029) 7621019, (8-044) 5321975.*

• Дом у в. Жары Вілейскага раёна альбо на вываз. Т. (8-0176) 533458.*

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у в. Ярмолічы Вілейскага раёна, танна. Т. Вэлком (8-029) 9880334, (8-029) 9815728.*

• Дом у Маладзечне пасля пажару, 80 кв.м, участак 0,6. Гараж, хлеў, лазня не пашкоджаныя. Т. (8-029) 7469707, (8-029) 2582660.*

• Дом у Смаргоні па вул. Трактарнай у добрым раёне, 15 сотак з забудовай, гараж, хлеў, водаправод на ўчастку. Цэнтральны газ і каналізацыя праходзяць каля дома. Альбо мяняю на 1-пакаёвую кватэру ў Смаргоні ці Маладзечне. Т. (8-029) 6601162, (8-029) 6731333 Іван.*

• Дом цагляны ў вёсцы Кураней Вілейскага раёна агульнай плошчай больш за 100 кв. м, зямельны ўчастак 40 сотак.Т. (8-029) 5609402.*

• Паўдома ў Вілейцы, вул. Лаўрыновіча, 5. Т. (8-029) 2852295.*

• Садовы участак, жылы домік. Нядорага. КААП «Брыльянт», каля вёскі, чыгуначны прыпынак «Ласі». Т. (8-033) 6407558.*

• Склад-ангар, 200 кв. м, у раёне водаканала г. Маладзечна альбо здам у арэнду. Нядорага. Т. (8-029) 6423464, Віталій.*

### ЗДАМ

• Кватэру альбо пакой у Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*

# ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада. Жывая музыка. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бесера. Варότы адкатныя, двухстворкавыя. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Якасна. ІП Бізюк С.І. УНП 191927410. Т. МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Драбленне пнёў любога дыяметра. Хутка, якасна, нядорага. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Прамысловы альпініст. Уцяпленне кватэр, рамонт швоў, фасадаў. Адкосы, казыркі, адлівы, дахі балконаў, вадасцёкавыя сістэмы. Рамонт, мантаж. Любыя вышынныя работы. Гарантыя – 3 гады. ІП Глаткі А.А. УНП 692021425. Т. (8-033) 3020545.

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ**. Толькі бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ**. Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне + копка – **СКІДКА**. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

### Будматэрыялы, сантэхніка

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Дастаўка. Выгрузка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1989988, (8-033) 6989980.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Вагонка, дзверы, печы для дома і лазні, дошкі для падлогі, імітацыя бруса. ІП Кусовіч І.І. УНП 691891279. Т. Вэлком (8-029) 9394025.*

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

### Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне

• Трактар МТЗ-80 + прычэп, плуг, сетка барон, акучнік, канапка. Т. (8-044) 5542855.

• Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

### Камп'ютары, TV, сродкі сувязі



• Абаненцкія карты «Трыкалор» – скідкі! Акцыі! Антэны спадарожнікавыя – вялікі выбар, нізкія цэны. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Антэны спадарожнікавыя «Трыкалор», НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГПУП «Ліцераль». УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

### Жывёла, птушка, пчолы

• Адна дойная каза, адна котная, 6-месячны козлік і козачка, авечка котная. Валожынскі раён. Т. (8-029) 6433476.

• Вуллі новыя на 24 рамкі. Т. Вэлком (8-029) 9950326.*

• Індычаняты БІГ-6 і куранята: бройлерныя КОББ-500, нясушкі, цацаркі. Дастаўка.Т. МТС (8-033) 6908397, Велком (8-029) 6938397.*

• Індычаняты з індычкай, куры розных парод сем'ямі. Т. (8-029) 5809602.

• Падгадаваныя індычаняты, гусяняты, качаняты. Інкубацыйныя яйкі. Т. (8-01771) 46365, МТС (8-029) 2611495.*

• Парасяты в'етнамскія, 60 руб. Т. (8-029) 7098099.*

### Іншае

• Гандлёвая палатка памерам 4х6 м у аг. Заскавічы. Т. (8-033) 6619749.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

## КУПЛЮ

• Будматэрыялы, сантэхніку

### Бытавую тэхніку

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

### Камп'ютары, TV, сродкі сувязі

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

### Жывёла, птушка, пчолы

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.

### Іншае

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Арматуру 8, 10, 12 мм, ліст 1,5 – 3 мм. Т. (8-029) 1247481.*

• Кнігу «Памяць», розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

## ЗГУБЛЕНА

• Згублены студэнцкі білет Інстытута сучасных ведаў імя А.М. Шырокава на імя Гурло Анастасіі Канстанцінаўны лічыць несапраўдным.

# ПРАЦА

## ПАТРАБУЕЦЦА

• Арганізацыі для работы ў Вілейцы патрабуецца брыгада будаўнікоў-універсалаў (цесляры-бетоншчыкі, мулявы; тынкоўшчык-маляр. Зарплата па выніках гутаркі. 222410, г. Вілейка, вул. Кастрычніцкая, д.32. Т. (8-01771) 23751, (8-029) 7791319, (8-044) 7791319.

• Падсобны рабочы на сезон: бетон, земляныя работы. Т. (8-025) 7894666.

• ТАА «Сафіт-электрасэрвіс» запрашае на работу наступных спецыялістаў: спецыяліста па перамотцы рухавікоў, юрыста з досведам працы. 222410, г. Вілейка, вул. Кастрычніцкая, д.32. Т. (8-01771) 23751, (8-029) 7791319, (8-044) 7791319.

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Устаноўка агароджаў. Зварачныя работы. Бетонныя работы. Дэмантажныя работы і г.д. Т. (8-044) 7556706, (8-029) 8521268.

# Як не дапусціць самагубства

## За дзень у свеце забіваюць сябе 2300 чалавек, за год – 800 тысяч чалавек.

**Беларусь займае шостае месца па распаўсюджанасці самагубстваў пасля еўрапейскіх краін. Гэта пятая прычына смерці сярод працаздольнага насельніцтва пасля сардэчна-сасудзістых захворванняў, новаўтварэнняў, хвароб органаў дыхання і хвароб органаў стрававання.**



Згодна з дадзенымі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, ва ўсім свеце штогод адбываецца каля мільёна суіцыдаў, сярод іх, па дадзеных афіцыйнай статыстыкі, ад самагубства штогод гіне каля трох тысяч дзяцей і падлеткаў ва ўзросце ад 5 да 19 гадоў.

У 30 працэнтаў асоб 14-24 гадоў бываюць суіцыдальныя думкі. Суіцыд з'яўляецца «забойцам №2» маладых людзей ва ўзросце ад 15 да 24 гадоў. «Забойцам №1» з'яўляюцца няшчасныя выпадкі, у тым ліку перадазіроўкі наркотыкаў, дарожныя здарэнні, падзенні з мастоў і будынкаў, атручэнні. На думку ж суіцыдолагаў, многія з гэтых няшчасных выпадкаў на самой справе былі суіцыдамі, замаскіраванымі пад няшчасныя выпадкі.

**Калі эксперты маюць рацыю, то галоўным «забойцам» падлеткаў з'яўляецца суіцыд.**

### Забабоны і факты пра суіцыд

**Забабоны: Большасць самагубстваў здзяйсняюць амаль ці зусім без папярэджання.**

Факт: Большасць людзей падаюць сігналы папярэджання аб сваіх рашэннях або пачуццях з-за падзей, якія падштурхоўваюць да самагубства. Гэтыя сігналы ці заклікі аб дапамозе могуць падавацца чалавекам у форме прамых выказванняў, фізічных прыкмет, эмацыйных рэакцый. Гэта можа гаварыць пра выбар самагубства як сродку пазбаўлення ад болю, захавання кантролю або пераадолення страты.

**Забабоны: Не варта гаварыць пра самагубства з чалавекам, схільным, на вашу думку, да яго.**

Факт: Гутарка пра самагубства не спараджае і не павялічвае рызыку яго здзяйснення. Наадварот, зніжае. Лепшы спосаб даведацца пра суіцыдальныя намеры – задаць прамое пытанне. Адкрытая размова са шчырым клопатам і турботай ад вас стануць крыніцай палягчэння і нярэдка адным з ключавых элементаў у прадухіленні непасрэднай небяспекі самагубства.

**Забабоны: Калі чалавек кажа пра самагубства, то ён яго не здзейсніць.**

Факт: Людзі, што зводзяць рахункі з жыццём, звычайна перад гэтым прама ці ўскосна даюць ведаць каму-небудзь пра свае намеры. Чацвёра з пяці, якія маюць намер пакончыць з сабой, перад смерцю ў той ці іншай форме гавораць аб гэтым жаданні з іншым чалавекам.

**Забабоны: Суіцыдальныя спробы, што не прыводзяць да смерці, толькі прыцягваюць увагу.**

Факт: Суіцыдальныя формы паводзін або «дэманстратыўныя» дзеянні – гэта заклік ці просьба аб дапамозе, якія пасылаюць людзям. Калі ніхто не адгукнецца, то вельмі лёгка перайсці ад адчайнага крыку да высновы, што ніхто ўжо ніколі не дапаможа.

**Забабоны: Самазабойца адназначна жадае памерці.**

Факт: Намеры большасці суіцыдальных людзей застаюцца дваістымі аж да наступлення смерці. Вельмі нешматлікія захоўваюць упэўненасць у сваіх жаданнях або адназначным рашэнні звесці рахункі з жыццём. Большасць людзей адкрытыя для дапамогі, нават калі яна навязваецца ім незалежна ад іх волі.

**Забабоны: Тыя, хто накладае на сябе рукі, – псіхічна хворыя.**

Факт: Сапраўды, наяўнасць псіхічнага захворвання з'яўляецца фактарам высокай рызыкі самагубства. Аднак многія, вельмі многія здзяйсняюць самагубства, не пакутуючы ні на якое псіхічнае захворванне. Для іх гэта ўсяго толькі часовая сітуацыя, з якой яны не бачаць іншага выйсця.

**Забабоны: Калі чалавек аднойчы распачне суіцыдальную спробу, то больш не паўторыць.**

Факт: Хоць большасць асоб, якія ўчынілі суіцыдальную спробу, звычайна не пераходзяць да самагубства, аднак многія з іх паўтараюць гэтыя спробы. Частата самагубстваў у асоб, якія раней здзяйснялі суіцыдальныя спробы, у 40 разоў вышэйшая.

**Забабоны: Злоўжыванне алкаголем і наркотыкамі не мае дачынення да самагубстваў.**

Факт: Залежнасць ад алкаголю і наркотыкаў з'яўляецца фактарам рызыкі суіцыдальных паводзін. П'янства і наркотыкі могуць істотна садзейнічаць звядзенню рахункаў з жыццём.

**Забабоны: Дапамагчы могуць толькі прафесіяналы.**

Факт: Патрабуецца толькі ўвага да таго, што чалавек кажа, прымаць гэта ўсур'ёз, аказваць падтрымку і звяртацца па адпаведную дапамогу. Многія людзі гінуць толькі таму, што ім не прапанавалі першую дапамогу і падтрымку.

**Забабоны: Калі ў чалавека ёсць схільнасць да самагубства, яна застанецца назаўжды.**

Факт: Большасць суіцыдальных крызісаў з'яўляюцца часовымі і спыняюцца пры адпаведнай дапамозе. Аднак калі эмацыйны стрэс працягваецца, палёгка не надыходзіць, а дапамога не аказваецца, захоўваецца рызыка суіцыдальных паводзін. Пасля атрымання прафесійнай дапамогі чалавек часцей за ўсё здольны аднавіць звычайную жыццядзейнасць.

**Забабоны: Самагубства – з'ява спадчынная.**

Факт: Гэта складанае пытанне. У апошні час навукоўцы інтэнсіўна шукаюць гены, якія могуць мець дачыненне да фарміравання суіцыдальных паводзін.

**Забабоны: Калі не пакінулі запіску, то тое, што здарылася, нельга лічыць самагубствам.**

Факт: Толькі чвэрць ад усіх самазабойцаў пакідаюць запіскі.

**Руслан БАТУРЭВІЧ,
дзяржаўны медыцынскі судовы эксперт-псіхіятр сектара судова-псіхіятрычных экспертыз аддзела медсудэкспертыз Маладзечанскага міжраённага аддзела Камітэта судовых экспертыз.**

# Адзін дождж – не падстава адмяняць забарону наведваць лясы

## У Маладзечанскім лясгасе распавялі, як змагаюцца зляснымі пажарамі

МАЛАДЗЕЧНА

**Днямі на Маладзечаншчыне прайшоў жаданы дождж. Аднак у лясгасе перакананыя: яшчэ нельга адмяняць забарону наведваць лясы, устаноўленую шостага чэрвеня.**

– Трэба шмат ападкаў, каб лясная посцілка стала вільготнай і заставалася такой на працягу ўсяго дня, павінна спасці гарачыня. Адзін дождж не вырашыць праблему, – кажа **Віталь Дземеш**, намеснік дырэктара па ідэалогіі Маладзечанскага лясгаса.

### Хто вінаваты?

Як распавёў інжынер па ахове і абароне лесу **Павел Самаль**, сёлета пажаранебяспечны перыяд у лясах пачаўся ад красавіка, калі канчаткова сышоў снег, а лясная посцілка высахла. За гэты час на Маладзечаншчыне здарылася пяць лясных пажараў.

**По словах спецыялістаў лясгаса, у 90% пажараў, што здараюцца ў лесе, вінаваты чалавек. Незатушаная цыгарэта, запалка, пакінутае пасля пікніка вогнішча прыводзяць да сумных вынікаў.**

Часам «вінаватай» у пажары становіцца маланка. Гэта, па назіраннях Віталя Дземеша, лёгка разнаць:

– На месцы здарэння заўсёды можна знайсці дрэва, паламанае ад удару, – кажа ён. – Мне даводзілася бачыць, як маланка б'е ў дрэва: яно тады можа разляцецца, нібы венік для лазні.

А вінаватага чалавека знайсці не так проста. За пяць год працы інжынера па ахове і абароне лесу **Паўла Самаля** быў толькі адзін такі выпадак. Вінаватага дапамаглі знайсці жыхары вёскі, паблізу якой здарыўся пажар.

Аказалася, што фігурант ужо адбывае раней у турме тэрмін за падпалы. Пакаранне за пажар у лесе – да 25 базавых велічынь. Гэта 575 рублёў. Часам, калі ўведзеная забарона на наведванне лясоў, можа быць і крымінальная адказнасць.

### Пажар каля Ізабеліна тушылі два дні

Самы маштабны пажар за гэты сезон быў у Гарадоцкім лясніцтве, каля вёскі Ізабеліна. Пажар быў нізавы – гарэла лясная посцілка. Але небяспеку ўяўляла тое, што зусім побач раслі маладыя хваёвыя дрэўцы да аднаго-двух метраў у вышыню. Полымя магло перакінуцца на іх, потым – на больш высокія дрэвы. Каб не прынялі неабходных мер, здарыўся б верхавы пажар. А ён ужо куды больш страшны і небяспечны.

На тым пажары работнікі лясгаса працавалі два дні. Спачатку прыкладна за гадзіну лакалізавалі яго – абаралі плугам на трактары тэрыторыю так, каб полымя не перакідвалася далей. Пасля пачалі тушыць. Дапамагла рэчка, што была побач: пажарныя рукавы працягвалі ад яе.

**Па словах Паўла Самаля, лес у Гарадоцкім лясніцтве даволі густы. За дзесяць метраў ужо не ўбачыш чалавека. Таму там было складана працягваць пажарныя рукавы.**

### Галоўнае – хутка лакалізаваць і патушыць

Нават калі няма полымя, лясная посцілка можа доўга тлець, а з ёй шышкі, пянькі, сухая хвоя, мох, галінкі. Вось перакіне вецер такі вугольчык крыху далей – і пажар можа пачацца зноў. Таму на пажарышчы яшчэ некалькі дзён і начэй дзяжураць спецыялісты: назіраюць, паліваюць вадой небяспечныя месцы.

Калі пажары ў лесе заўважаюць грамадзяне, яны звычайна тэлефануюць на 101. Тады выратавальнікі паведамляюць пра здарэнне ў лясгас і выязджаюць разам.

Калі ж агонь або дым убачаць работнікі лясгаса, яны выязджаюць на месца першымі, ацэньваюць, ці патрэбная тут дапамога выратавальнікаў.

Калі пажар хутка лакалізуюць і ліквідуюць, асаблівай небяспекі для лесу ён не ўяўляе. Лясная посцілка паступова абнаўляецца сама. Можа з'явіцца нават новая расліна, якая да пажару ў гэтым лесе не расла.

Дрэвы таксама асабліва не церпяць. Хіба што кара можа пачарнець на ўзроўні да аднаго метра. Карані пры гэтым застаюцца цэлымі.

**– Калі ж пажар вялікі, ліквідуецца не адразу, карані дрэў могуць пашкодзіцца, – прыгадвае выпадкі са сваёй практыкі Віталь Дземеш. – Тады па лесе хадзіць небяспечна: дрэва з пашкоджанымі каранямі можа зваліцца ў любую хвіліну. На Маладзечаншчыне за апошнія гады такіх сур'ёзных пажараў не было.**



Асабліва цяжка бывае ў густым лесе працягнуць пажарныя рукавы.

### Нават з вышыні 35 метраў не заўсёды заўважыш пажар

У пажаранебяспечны час работнікі лясгаса праводзяць рэйды. Раней былі выпадкі, калі дзяжурылі па начах. У кожным лясніцтве стаяць 35-метровыя вышкі. У Маладзечне і Лебедзеве яны абсталяваны камп'ютарамі. Аднак у спёку на іх дзяжураць людзі.

І нават з вышыні 35 метраў не заўсёды ўбачыш, што пачынаецца пажар.

– Вышкі стаяць каля адміністрацыйнага будынка лясніцтва, таму не заўсёды позіркам ахопіш увесь лес, – кажа Віталь Дземеш.

Дадаткова арганізуюць назіральныя пункты ў лесе на ўзгорках. За абстаноўкай у лесе адсюль можна назіраць проста з машыны. Часам дапамагаюць заўважыць пажар фоталавушкі, усталяваныя ў лесе. У суседнім Вілейскім доследным лясгасе і аддзелах МНС для назірання выкарыстоўваюць квадракоптары. Плануюць набыць такі і ў Маладзечне, а пакуль пры патрэбе звяртаюцца па дапамогу да калег.



Пажары тушаць з дапамогай спецыяльных ранцаў.

**– Ці былі такія пажары, калі даводзілася ратаваць звяроў? – пытаюся ў сваіх субяседнікаў.**

– Не, – адказвае Віталь Дземеш. – Звяры заўсёды першыя адчуваюць любую небяспеку і ўцякаюць. Загінуць можа, напрыклад, птушка ў гняздзе, мурашкі ў мурашніку. – Нават калі ў 2016 годзе быў вялікі буралом і паваленыя дрэвы з машын выразалі, звяры не пацярпелі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Эдуард Мацюшонак на адкрыцці выставы работ з пленэра, прысвечанага Уладзіславу Страмінскаму.

## Дзеці выказвалі свае пачуцці. Праз фарбу і колеры

**У Вілейцы завяршыўся пленэр, прысвечаны творчасці Страмінскага.**

– Вы ўявіце, што гэтымі самымі вуліцамі, дзе вы цяпер ходзіце, хадзіў Уладзіслаў Страмінскі, у гэтым будынку, дзе вы вучыцеся маляваць, выкладаў малюнак Уладзіслаў Страмінскі. У вас абавязкова ўзнікнуць пачуцці. Малюйце не тое, чаго ад вас нехта чакае, а выказвайце свае пачуцці. – Прыкладна так, – дзеліцца мастак і адзін з ініцыятараў пленэра **Эдуард Мацюшонак**, – ён гаварыў дзецям, якія амаль два тыдні малявалі Вілейку, старыя дворыкі ля былой гімназіі, касцёл, музей: тыя месцы, якія, магчыма, таксама натхнялі Страмінскага ў далёкім 1939-м ці 40-м.

Нават у партрэтах аўтары не стараліся перадаць фатаграфічныя рысы той ці іншай асобы, а, галоўнае, яе бачанне аўтарам. Эдуард Мацюшонак як прыклад прывёў работы васьмікласніка **Паўла Андранюка**, у адной з якіх той паказаў самога Страмінскага, чалавека надзвычай складанага і трагічнага лёсу.

Пленэр, прысвечаны творчасці Страмінскага, быў арганізаваны пры дапамозе і ўдзеле аддзела ідэалогіі і адукацыі райвыканкама, Вілейскага краязнаўчага музея. Удзельнічалі больш за 20 юных мастакоў з Вілейкі, вілейскай Любані. Былі сярод мясцовай дзятвы і двое мінчан.

На думку Эдуарда Мацюшонка, не абавязкова з кожнага ўдзельніка пленэра атрымаецца мастак. Гэта і не трэба. А вось адчуваць гэтыя дзеці навучыліся.

– Калі чалавек узважвае як на шалях, што больш важнае, то гэта матэматыка, а калі ён рашэнне прымае сэрцам, то гэта пачуцці, – расказваў бацькам удзельнікаў пленэра, якія запоўнілі выставачную залу імя Нікадзіма Сілівановіча, Эдуард Мацюшонак. – І вашы дзеці адчуваць умеюць.

Вынікам пленэра стала выстава, у якой было прадстаўлена каля 100 самых разнастайных па эмоцыях работ школьнікаў.

Усе ўдзельнікі былі адзначаныя, хто дыпломам, хто падзякай.

У пленэры ўдзельнічалі дзеці, якія займаюцца ў Любанскім філіяле дзіцячай школы мастацтваў, дзіцячай студыі «Вясёлка» і раённага Цэнтра дадатковай адукацыі. Падчас пленэру з яго ўдзельнікамі працавалі педагогі **Алена** і Эдуард Мацюшонкі, **Сяргей Гарачаў**.

> Уладзіслаў Страмінскі (1893, Мінск – 1952, Лодзь). Беларускі і польскі мастак. Ідэолаг унізму – сучасны плыні ў мастацтве. Двойчы лёс звязваў яго з Вілейкай, дзе нарадзіліся шэдэўры сучаснага мастацтва, у т.л. цыкл «Заходняя Беларусь». Імем мастака названая мастацкая акадэмія ў Лодзі.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Маладыя музыканты ставяць оперу пад кіраўніцтвам італьянскага маэстра

## А ў антракце абяцаюць сюрпрыз

МАЛАДЗЕЧНА

**Прэм'ера амбіцыйнай творчай задумы адбудзецца ў Мінскім абласным драмтэатры ў нядзелю, 24 чэрвеня.**

Такі міжнародны праект задумаў выхаванец Маладзечанскага музкаледжа **Андрэй Мікульчык**, а ідэю падтрымаў кіраўнік драмтэатра **Юры Крывенькі.**

– Нам было галоўнае паказаць таленавітую моладзь, – кажа дырэктар драмтэатра. – Самі сабраліся і зрабілі. Я даўно марыў, каб пры тэатры збіраліся маладыя творчыя людзі – хто піша, малюе, спявае. Каб вынік іх культурнай працы маглі ацаніць і бацькі.

### Як рыхтаваліся

Працаваць над творам было няпроста. Удзельнікі жывуць у розных краінах. Кожны рыхтаваў сваю частку, некалькі разоў сустракаліся ў Прыбалтыцы, Празе, Італіі. Увесь працэс курыраваў фларэнційскі маэстра **Паола дэ Напалі**.

Касцюмы і дэкарацыі выкарыстоўваюць тыя, што ўжо былі ў запасе тэатра.

**Гунта Гельготэ**, якая іграе галоўную гераіню Серпіну, прыехала за тыдзень, каб удзельнікі маглі адрэпеціраваць усё дасканала і ў дэкарацыях. Маэстра Паола дэ Напалі прыязджае 21 чэрвеня, каб кіраваць апошнімі рэпетыцыямі.

– У оперным свеце гэта нармальна, – кажа Гунта. – Кожны рыхтуецца самастойна, пасля з'язджаюцца.

Гунта Гельготэ – салістка Літоўскага нацыянальнага опернага тэатра, па нацыянальнасці латышка, цяпер жыве ў Вільні. Маэстра Паола дэ Напалі – з Фларэнцыі, выступае ў пастаноўцы рэжысёрам.

Маладзечанцы **Сяргей Салаленка** іграе нямога слугу Веспонэ, а Андрэй Мікульчык – багатага гультая Убэрта.



Акцёры камічнай оперы «Служанка-гаспадыня» злева направа: Веспонэ, ці нямы слуга – Сяргей Салаленка, Серпіна – Гунта Гельготэ і Убэрта, якога іграе Андрэй Мікульчык.

Андрэй свабодна размаўляе на італьянскай, таму складанасцяў з вывучэннем матэрыялу не было. Аднак трэба ведаць шмат нюансаў, якія прасочваюцца паміж радкамі.

Спевы будзе суправаджаць аркестр. Першая скрыпка – **Вольга Козік**, другая – **Юлія Храмец**, фартэпіяна – **Марыя Лі**, віяланчэль – **Валянціна Сцяпанава**.

### Што гэта будзе

Камічная опера Джавані Пергалезі «Служанка-гаспадыня» ў стылі барока ідзе ў першай частцы. Пасля будзе гала-канцэрт папулярных оперных арый у выкананні запрошаных спевакоў. А ў антракце – незабыўны сюрпрыз.

Пасля паказу ў Маладзечне арганізатары ацэняць, ці будуць ставіць п'есу і ў іншых месцах.

Пачатак у 20 гадзін. Дырэктар вырашыў рызыкнуць, як маладзечанцы ўспрымуць такі час пачатку спектакля.

Оперы ў Маладзечне раней ставіў дырэктар музкаледжа **Рыгор Сарока**. А вось на сцэне драмтэтра ставяць упершыню.

### Пра што опера

Упершыню оперу «Служанка-гаспадыня» паставілі ў Неапалі ў 1733 годзе.

У пастаноўцы высмейваюць заможных гультаёў, якія нічога не робяць, спяць паўдня. А хітрая служанка з дапамогай іншага слугі змагла абвесці такога мажора вакол пальца і ажаніць на сабе. Так дзяўчына са служанкі ператварылася ў гаспадыню.

Сюжэт вельмі просты, музыка дае ясныя характарыстыкі, таму хаця гучыць па-італьянску, зразумелая будзе кожнаму маладзечанцу.

П'еса невялікая, і таму яе лёгка ўспрымуць гледачы. Гэта быў першы сюжэт, дзе высмейваліся багацеі. Многія былі абураныя сюжэтам, таму што ў тэатр хадзілі якраз заможныя. Пасля ідэю падхапілі іншыя майстры. Пергарэзі напісаў оперу ў 23 гады, а памёр у 26.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**

# Беларускія школы зачыняюцца, багаты крыўдзіць беднага

## Якія навіны з нашага рэгіёна друкавалі ў часопісе «Беларускі звон» амаль сто год таму

АШМЯНЫ, ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

**У 1921-1923 годзе шмат навін з нашага рэгіёна друкавалася ў штотыднёвай газеце нацыянальна-дэмакратычнага накірунку «Беларускі звон». Прапануем чытачам пазнаёміцца з некаторымі з іх.**



Будынак былой беларускай настаўніцкай семінарыі ў Барунах.

Фота Уладзіміра Хільмановіча.

### «А хто будзе слухаць беларускія казкі, таму – куля ў лоб»

Нумар ад 22 сакавіка 1921 года: «У апошнія часы мы даведаліся сумную справу. Наладжаная з вялікімі затратамі энергіі беларуская семінарыя ў Барунах Ашмянскага павета зачыненая адміністрацыйным парадкам 14 сакавіка без папярэдняй згоды з Дэпартаментам асветы. У семінарыю прыйшоў рэвіровы (участковы міліцыянер – «РГ»), які зачыніў семінарыю. Падручнікі, бібліятэка і класы зачынены і запячатаны. Не абышлося без вясёлых жартаў з боку прысутных пры гэтай чыннасці жандараў, жартаў, якія зусім не падыходзяць для адносінаў з дзецьмі, асабліва ў гэтакі момант. Адзін з жандараў звярнуўся да дзяцей: «А хто будзе слухаць беларускія казкі, таму – куля ў лоб». Не абышлося таксама і без здзеку з беларускай мовы.

**Перад гэтым прыязджалі ўжо туды жандары рабіць рэвізію і здзекаваліся з асабістай годнасці вучыцеляў (настаўнікаў – «РГ») семінарыі, лаючы іх брыдкімі расейскімі словамі.**

Цяпер справа ўлады, каб разабралася ў гэтым. Мы толькі разумеем, што беларуская вучыцельская семінарыя, калі ёсць беларускія школы, павінна быць, і зачыняць яе нельга. Мы чулі, што з'явілася думка, каб перанесці яе ў Вільню. Але кожны разумее, што гэтакі перанос у сярэдзіне вучэбнага года – гэта ёсць тое самае, што і зачыніць семінарыю зусім.

І каму гэта трэба? Калі ў Барунах мае быць памешчаная нейкая польская школа, дык гэта можа быць зроблена толькі ўвосень, бо ніякая школа цяпер пераязджаць не згодзіцца, апрача таго, будынак патрабуе капітальнага рамонту.

Улетку можна перанесці семінарыю ў другое месца: Маладзечна або Будслаў».

І праз два нумары на старонках газеты паведамлялі, што «беларуская семінарыя ў Барунах яшчэ не будзе зачыненая».

### А Вілейка спіць…

А вось што пісаў «Беларускі звон» ад 19 жніўня 1921 года ў рубрыцы «Жыццё правінцыі» пра Вілейку: «Горад наш невялічкі і невялікае цяпер яго значэнне. Каб заварушылася б тутэйшая маса жыхароў – усе чыстыя беларусы – толькі б тады жыццё пайшло б тут буйней уперад. Але маса пакуль у большасці спіць або вочы працірае. Школьным інспектарам тут – **Уладзіслаў Бяганьскі**. Ён хоча быць справядлівым для ўсіх, нават для беларуса. Але сябры, хто ж будзе чакаць, пакуль мы прабудзімся? Ніхто за нас працаваць не будзе. Кожны вядзе сваю работу. І вось мае быць у старой Вілейцы адкрыта гімназія. Калі мы, беларусы, не хочам праспаць усіх магчымасцяў, бяромся хутчэй за працу».

### Ці ж гэта справядлівыя адносіны да беларускай школы?

У наступным нумары невядомы аўтар узрушаецца звальненнем беларускіх настаўнікаў са школ у Мароськах і Запаляках (цяпер Маладзечанскі раён): «Школьны інспектар Вілейскага павета звольніў **З. Івашкевіч** з вёскі Мароські і В. Маяйку з Запалякаў Лебедзеўскай воласці. Абедзве вучыцелькі звольненыя як «некваліфікаваныя». Вучыцелькі гэтыя скончылі сем класаў гімназіі. З польскіх школ вучыцеляў з гэтай і меншай адукацыяй не толькі не звальняюць, але і прынімаюць.

Ці ж гэта справядлівыя адносіны да беларускай школы?»

### Дзе маглі быць беларускія школы, адчынілі польскія

У нумары ад 2 верасня 1921 года аўтарка з Гальшанаў пад псеўданімам **Гальшанская** піша: «У Гальшанскай воласці Ашмянскага павета было арганізавана шэсць пачатковых школ. Лічба гэта магла б быць і большай, каб арганізацыя адбылася ў пачатку навучальнага года. З-за таго, што інструктар прыехаў толькі ў снежні, у некаторых пунктах, дзе маглі б быць беларускія школы, былі адчыненыя ўжо польскія. Але не будзем ужо гаварыць аб тым, што магло б быць, скажам пра тое, што ёсць. Вось якраз гэтага мы і не можам сказаць, што нашы беларускія школы ёсць.

– Як няма? – спытаеце вы. – А дзе ж яны падзеліся?

А так – былі, былі, ды раптам зніклі. На іх месцы з'явіліся польскія школы. Каб растлумачыць гэту справу, трэба расказаць, пры якіх варунках стваралі гэтыя школы. Яны пачалі сваю працу пасля таго, як адбыліся вясковыя сходы, на якіх сяляне сказалі, што хочуць мець беларускія школы. Подпісы на пастановах сведчаць пра гэта.

**Маючы пісьмовую згоду сялян, не так проста было тым школам з'явіцца на свет гэты. Але як бы там ні было, нашы беларускія школы працавалі ўсю зіму. І вось нядаўна даведваемся мы, што воласць, укладаючы сетку на новы школьны год, пастанавіла адчыніць толькі польскія школы».**

### А тым часам у Вязыні і Даўгінаве

На старонцы часопіса за 28 лютага 1922 года аўтар С. Саха апісвае здарэнне, што адбылося з жыхаром вёскі Гута на Вілейшчыне. «12 студзеня па дарозе ў Вілейку ехаў жыхар Ільскай воласці А. Р., які жыве за Ільяй 12 вёрст, у вёсцы Гута. Праехаўшы 21 вярсту і мінуўшы Вязынь, А. Р. сустрэў нашага абшарніка пана Гіцэвіча, які ехаў са сваім шваграм і фурманам. Як толькі Гіцэвіч параўняўся з санямі гэтага «хама», зняў з каня А. Р. кульбачку, палажыў сабе, сеў і паехаў. Чалавек гэты далей паехаў без кульбачкі».

«Свядомасць пашыраецца» – так называлася навіна з Даўгінава, што была надрукаваная ў нумары за 30 верасня 1921 года. Аўтар пад псеўданімам Даўгінавец пісаў: «Пачуццё беларускасці ў нашым мястэчку моцнае не толькі сярод каталікоў і праваслаўных, а нават жыды разумеюць ясна, на якой зямлі яны жывуць. На жаль, няма як тут закласці якую-небудзь сувязь, каб усе элементы арганізаваліся. Проста здаецца, што пасля вайны ў людзей розум неяк не на месцы. Хацелася б пасладзь дэлегата на беларускую нараду ў Чэхію. Але позна мы пра гэта даведаліся, ды зноў жа не арганізаваліся. Ёсць у нас польскі вучыцель, рамантуюць школы, але шкада, што там, здаецца, па-беларуску вучыць не будуць».

Падрыхтавала
Аксана ЯРАШОНАК.

● КАЛЯНДАР

**22 ЧЭРВЕНЯ**

Дзень усенароднай памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны.

**2003.** 15 гадоў таму ў шпіталі ў Бараўлянах Мінскага раёна памёр **Васіль Быкаў**, народны пісьменнік Беларусі. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

**135 гадоў** з дня нараджэння **Аляксандра Цвікевіча** (1883 – 1937), беларускага палітычнага дзеяча, гісторыка, філосафа, публіцыста.

**23 ЧЭРВЕНЯ**

**1794.** Расія ўвяла «мяжу яўрэйскай аседласці», у якую ўвайшлі Полацкая, Магілёўская і Мінская губерні.

**24 ЧЭРВЕНЯ**

**1777.** Нарадзіўся **Ян Ходзька** (мястэчка Крывічы, цяпер Мядзельскі раён), пісьменнік, грамадскі дзеяч, удзельнік паўстання 1830-1831 гадоў.

**1812.** У Беларусь увайшлі войскі Напалеона, пачалася вайна.

**25 ЧЭРВЕНЯ**

**40 гадоў** з дня ўручэння (1978) гораду-герою Мінску ордэна Леніна і медаля «Залатая Зорка».

**26 ЧЭРВЕНЯ**

**80 гадоў** назад (1938) адбыліся першыя выбары ў Вярхоўны Савет БССР.

**27 ЧЭРВЕНЯ**

**95 гадоў** з дня нараджэння **Віктара Вярсоцкага** (1923 – 2004), беларускага жывапісца, педагога, заслужанага настаўніка Беларусі (1966), заслужанага дзеяча культуры Польшчы. Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут у 1968 годзе. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

**28 ЧЭРВЕНЯ**

**1941.** Гітлераўскія войскі занялі Мінск.

**1942.** У Маскве ў гатэлі загінуў **Янка Купала**, народны паэт Беларусі. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску.

**1979.** Заснавана Чырвоная кніга Беларусі – збор рэдкіх жывёл і раслін, якія існуюць пад пагрозай вынішчэння (кніга выдадзена ў 1981 годзе, перавыдадзеная ў 1993 годзе).

***

**1468.** 550 гадоў назад у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Астравец.

**1523.** 495 гадоў назад у Кракаве выдадзена паэма Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра».

**1873.** 145 гадоў з часу ўводу ў эксплуатацыю чыгуначнай магістралі Маладзечна – Мінск – Бабруйск – Гомель Лібава-Роменскай чыгункі.

**1918.** 100 гадоў назад у Вільні **Браніславам Тарашкевічам** выдадзена «Беларуская граматыка для школ».

Марыя БЕРАСНЕВА.

# «І сёння балюча здымаць вяселлі»

## Маладзечанец, у якога жонка памерла ў радзільні,




Давід у вобразе баскетбаліста.

МАЛАДЗЕЧНА

**Ягору – 29. Давіду – амаль тры. Тату з сынам я сустрэла ў маладзечанскім гарадскім парку. Давід, як маленькі верталёцік, лётаў ад лавачкі да лавачкі. Тата імкнуўся злавіць у аб'ектыў фотаапарата свайго хлопчыка.**

### Давід цягнецца да жанчын

**Ягор** і **Давід** – гэта ўся сям'я **Мышукоў**. У кастрычніку 2015 года іх жонка і мама **Вікторыя** раптоўна памерла пасля родаў у маладзечанскай радзільні. Цяпер «хлопцы» жывуць удвух у аднапакаёвай кватэры.

**На маё пытанне, як праходзіць дзень таты ў дэкрэце, Ягор адказвае проста: напэўна, так, як і мамы ў дэкрэце. Прачынаемся, гатуем, ядзім, стараемся больш гуляць, ходзім у госці да бабуль, абавязкова – дзённы сон.**

Давід ужо спрабуе хадзіць у садок. З дзецьмі і выхавальніцай хлопчыку падабаецца. Ён увогуле цягнецца да жанчын: да бабуль, да Ягоравай сястры.

Ад ліпеня плануюць аддаць хлопчыка ў садок на цэлы дзень. І хутка тата зможа выйсці на ранейшую працу – апаратарам на адно з мэблевых прадпрыемстваў.

– Летам яшчэ нічога, – кажа Ягор. – Стараемся з Давідам шмат гуляць на вуліцы. А зімой часцены цісну́ць, больш на працу хочацца.

Прызнаецца, што цяпер, калі сын падрос, з ім стала куды цікавей. Хлопчык у апошнія паўгода пачаў шмат гаварыць, ведае колеры, паўтарае фразы за дарослымі. Тата ўжо можа зразумець Давіда, адказаць на яго дзіцячыя пытанні. Першым словам хлопчыка было – «дай». Потым пачаў гаварыць «тата» і «баба».

### Як маленькі сын «шкадуе» тату

– Калі так раптоўна і незразумела памерла Віка, у дэкрэтны былі гатовыя ісці і яе мама, і мая, – прыгадвае мужчына той кастрычнік 2015 года. – Вырашылі, што пойдзе мама Вікі. А я працаваў. На працы разумелі маю сітуацыю, ішлі насустрач. Дазвалялі працаваць у першую змену – больш зручную для мяне. Па магчымасці дапамагалі ў дзіцячай паліклініцы. Калі былі нейкія пытанні, тэлефанаваў доктару-педыятру **Наталлі Свірыдзе.** Заўсёды атрымліваў адказы.

У адпачынку па доглядзе за дзіцем мужчына больш за год: пайшоў летась у маі. Атрымлівае дэкрэтныя і грошы па страце кармільца. Усе льготы для такіх сямей адмянілі ў 2013 годзе.

Ягор прызнаецца, што спачатку яго вельмі палохала невядомасць: што рабіць з маленькім дзіцем аднаму, без жонкі? Ды і знаёмыя казалі, што будзе нялёгка.

Але маленькі Давід «шкадуе» тату. Нічым сур'ёзным хлопчык не хварэў, у бальніцы, як дзеці многіх знаёмых, не ляжаў, паспаць даваў. Выпісалі яго з радзільні, дарэчы, як усіх здаровых дзяцей, – на пятыя суткі. У першы год былі звычайныя для ўсіх немаўлят нязначныя праблемы – жывоцік, зубкі, крыху павышаная тэмпература.

### Да бабулі – на арэлі і батут

У хлопчыка выдатны апетыт. У бабулі, Ягоравай маці, некалькі ўнукаў. І яна кажа, што Давід – першае дзіця, якое так добра есць.

Цяпер бацькі Ягора і Вікі вельмі дапамагаюць сям'і. Бацькі жонкі жывуць зусім побач. Ягоравы бацька і маці крыху далей, у прыватным сектары. Там свой дом, сад, батут і арэлі для Давіда.

– Бачу, што дзяцей некаторых сяброў часам проста не адарваць ад мамы і таты, – кажа Ягор. – Давід жа без праблем ідзе да бабуляў і дзядуляў.

### Што трэба дзіцяці?

**– Нейкім хатнім справам мусілі навучыцца?**

– Гатаваць я заўсёды любіў. Адзенне памыць – цяпер праблем няма: закінуў і дастаў. Як немаўлят даглядаць, таксама ўяўляў: калі ў

# распавёў, як жыве і гадуе сына


Тут Давід яшчэ маленькі.


Мама Давіда Мышука памерла ў 2015 годзе ў радзільні.


Ягор далучае сына Давіда да сваіх захапленняў.

сястры нарадзіўся першы сын, мне было 11 гадоў. Што трэба маленькаму дзіцяці? Увага і час, – разважае Ягор. – Гэта ўсё я магу даць сыну.

Назваць хлопчыка Давідам вырашыў Ягор. Мужчына расказаў, што і сёння дома захоўваецца распіска, напісаная Вікторыяй. У ёй пазначана, што калі народзіцца хлопчык, то імя выбірае Ягор, калі дзяўчынка – называе мама.

## Сын ведае маму па фотаздымках

Дзяўчынку, дарэчы, і чакалі. На трох ультрагукавых даследаваннях будучым бацькам сказалі, што народзіцца дачушка. Нават набылі ўсё ружовае для выпіскі з радзільні.

Для дзяўчынкі будучая мама падрыхтавала тры імені. Для хлопчыка – толькі Давід. Іншых варыянтаў не было. Ягор лічыць гэта імя вельмі мужчынскім, з гісторыяй.

**– Распавядаеце Давіду пра маму?**

– Сын ведае маму па фотаздымках, разам ездзім на могілкі да Вікі.

На думку Ягора, калі дзіця страчвае маму ў старэйшым узросце, тады бывае значна цяжэй. Давід жа не ведаў мамы і пакуль яшчэ не разумее ўсёй трагічнай сутнасці таго, што адбылося.

## Пра смерць жонкі паведамілі толькі праз паўтары гадзіны

Вікторыя ніколі нічым сур'ёзным не хварэла. У яе картцы ў паліклініцы былі толькі запісы з медаглядаў. Ніякай алергіі на медыцынскія прэпараты ў жанчыны не было.

Цяжарнасць праходзіла лёгка. Як многія ў гэтым стане, часам адчувала млоснасць раніцай. У радзільню Віку забралі за два тыдні да родаў.

> **– Няўжо за гэты час дактары не маглі прадугледзець усё, каб не адбылася трагедыя? – да гэтай пары не разумее Ягор.**

Афіцыйная прычына смерці Вікторыі Мышук – анафілактычны шок. Але ў Ягора і сёння да дактароў засталося шмат пытанняў. Чаму на бірцы ў дзіцяці не быў пазначаны час яго нараджэння? Тата забіраў сына з радзільні, не ведаючы, калі нарадзіўся хлопчык.

Чаму Віка памерла каля сямі раніцы, а яму патэлефанавалі толькі праз паўтары гадзіны? Быццам бы дробязі. І ўсё ж…

Пасля трагедыі Ягор размаўляў са сталічнымі дактарамі, якія маюць вялікі досвед працы. Доктар-гінеколаг **Таццяна Дубавец** адзначыла, што, працуючы ад 1993 года, пра выпадак смерці ад метылэргабрэвіну пачула ўпершыню. Па яе словах, прэпарат, з-за якога па афіцыйнай версіі здарыўся анафілактычны шок у Вікі, уводзяць усім жанчынам пасля родаў, каб не было крывацёку.

## Рыбкі, фота, відэа, баскетбол, страйкбол

Малады тата знаходзіць час на захапленні. Ягор разводзіць акварыумных рыбак і крэветак. Давід дапамагае тату іх даглядаць.

Яшчэ адно захапленне – спорт. Мужчына з камандай сяброў прыкладна раз на тыдзень у сваё задавальненне займаецца баскетболам, наведвае трэнажорную залу. Калі ёсць час і магчымасць, па нядзелях гуляе ў страйкбол – ваенна-спартыўную гульню з электрапнеўматычнай зброяй.

**– Адпачыць з сябрамі можаце дазволіць сябе?**

– Я жаніўся не рана, таму з сябрамі нагуляўся шмат. У нас з Вікай – агульныя сябры. Цяпер ва ўсіх ёсць дзеці, у некаторых – па двое. Калі збіраемся на прыроду ці да некага ў госці, едзем сем'ямі, з дзецьмі.

## Асабліва кранаюць здымкі ў Залессі

Яшчэ адно захапленне, якое да таго ж дае невялікі прыбытак сям'і, – гэта фота- і відэаздымка.

Здымае Ягор даўно. Першы фотаапарат набыў гадоў пяць таму назад – і пачалося. Сёння мой субяседнік здымае вяселлі.

> **– Канешне, бывае цяжка на такіх здымках, – прызнаецца мужчына. – Вельмі кранаюць сцэны ў ЗАГСе. А яшчэ цяжэй, калі маладыя едуць у Залессе на Смаргоншчыну – туды, дзе сябры-апаратары здымалі наша з Вікай вяселле.**

І ўсё ж Ягор перасільвае сябе. Лічыць, што не варта адмаўляцца ад любімай справы, якая прыносіць радасць людзям, а таксама маральнае задавальненне і невялікі прыбытак яму.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота забяспечаныя Ягорам МЫШУКОМ.**


Фота з суполкі «Віліі» «Укантакце».

Гол уляцеў у вароты «Крупак-ДРБУ-164».

### «Смаргонь» і «Чысць» даведаліся, хто будзе сапернікам у 1/16 фіналу

СМАРГОНЬ

У Доме футбола прайшло лёсаванне 1/16 фіналу Кубка Беларусі. Сапернікам «Смаргоні» ў 1/16 фіналу будзе сталічнае «Тарпеда». «Чысць» прыме салігорскі «Шахцёр». Гульні адбудуцца 28-29 ліпеня. Стадыя будзе згуляная ў адзін матч.

### «Маладзечна» вырвала нічыю

МАЛАДЗЕЧНА, АШМЯНЫ

Выніковай нічыёй для «Маладзечна-ДЮСШ-4» завяршыўся матч дзявятата тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе. У Мінску маладзечанцы 17 чэрвеня гулялі супраць «Энергетыка-БДАТУ». Землякам увесь час даводзілася быць у ролі даганяючых. Пасля першага тайма лік быў 1:1. У канцы тайма забілі гаспадары, а ў дададзены час **Сяргей Крот** рэалізаваў пенальці. У другім тайме мінчане на 59-й хвіліне зноў выйшлі наперад, але **Сяргей Лавор** далёкім ударам зраўняў лік – 2:2. Тут жа «Энергетык-БДАТУ» зноў вырываецца наперад, але на трэцяй дададзенай хвіліне Сяргей Крот забіў свой другі мяч у гульні. У выніку – 3:3.

«Ашмяны-БДУФК» дома атрымалі мінімальную перамогу 1:0 над «СМІаўтатрансам» са Смалявіцкага раёна.

Ашмянская каманда займае чацвертае месца, «Маладзечна-ДЮСШ-4» – перадапошняе, 14-е.

### «Чысць» прайграла 0:3 «Лідзе»

СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА

Матч 11 тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе «Чысць» праводзіла ў гасцях. Каманда з Маладзечаншчыны 17 чэрвеня прайграла «Лідзе» 0:3.

– Мы ведалі, што будзе вельмі цяжка, тым больш, што за тыдзень – гэта ўжо трэцяя гульня, – прыводзіць словы старшага трэнера «Чысці» **Дзяніса Мятліцкага** афіцыйны сайт ФК «Ліда». – Цяпер сем чалавек у нас у лазарэце – траўмаваныя, прастуджаныя. На здаровых хлопцаў выпала каласальная нагрузка. Сёння цэнтральны абаронца ў нас дзейнічаў наперадзе. Вядома, хацелі згуляць другім нумарам, не ўсё атрымалася, не было свежасці…

«Смаргонь» у гасцях гуляла з мікашэвіцкім «Гранітам». Матч завяршыўся безгалявой нічыёй 0:0.

«Смаргонь» займае сёмае месца, каманда набрала 13 ачкоў. «Чысць» з пяццю ачкамі ідзе 14-й.

### «Вілія» выйграла дома

ВІЛЕЙКА

Чарговы матч чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе ФК «Вілія» з Вілейкі 17 чэрвеня правёў дома – гулялі з «Крупкамі-ДРБУ-164». Віляйчане забілі першы гол ужо на другой хвіліне і ўрэшце выйгралі 3:1. Усе галы ў матчы гледачы пабачылі ў першым тайме. У віляйчан два галы забіў **Яўген Анасовіч**, яшчэ адзін – **Віталь Максімовіч**.

Пасля чацвертага тура «Вілія» займае шостае месца з дзесяці камандаў.

### У суботу «Маладзечна» згуляе з «Івацэвічамі»

Усіх аматараў футбола запрашаем 23 чэрвеня ў 13:00.

Матч 10 тура чэмпіянату краіны сярод камандаў другой лігі адбудзецца ў суботу.

У госці да ФК «Маладзечна» едзе дэбютант першынства ФК «Івацэвічы». Госці раней выступалі ў турніры Брэсцкай вобласці, дзе з году ў год займалі прызавыя месцы.

Уваход свабодны.

**Дзмітры РУХЛЕВІЧ.**

# Пройдзе самы буйны фестываль старых матацыклаў

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

**Сёлета адбудзецца шосты міжнародны фестываль старых і старадаўніх матацыклаў «Кола часу». У ім будзе ўдзельнічаць больш за сто аматараў з дзесяці краін Еўропы.**

КОЛА ЧАСУ

23 чэрвеня

КОЛА ЧАСУ 2018

VI міжнародны фестываль рэтра-матацыклаў

ВПЕРВЫЕ!

Международный пробег на ретро-мотоциклах из 10-ти стран Европы по маршруту

Людвиново — Камено — Долгиново — Будслав — Кривичи — Людвиново

Старт из Людвиново 10:00 *
Остановка в Камено 11:00 -11:30 *
Остановка в Долгиново 12:00 -13:30 *
Остановка в Будславе 14:00 - 15:30 *
Остановка в Кривичах 16:00 *

* Время указано ориентировочно.
Дата: 23(суббота) июня 2018г.
Контакты: www.retromoto.by
«КОЛА ЧАСУ» в соц. группах: vk.com и facebook.com
тел.+375 (44) 710-96-00

Вілейшчына і Мядзельшчына гасцінна расчыняць дзверы для рэстаўратараў, калекцыянераў і аматараў старадаўняй двухколавай тэхнікі. Буйнейшы фестываль у Еўропе здзівіць гасцей і гледачоў новым фарматам.

23 чэрвеня ўдзельнікі адправяцца ў амаль стокіламетровую вандроўку – «Крывіцкае падарожжа». Атрымаецца сапраўдная святочная экскурсія па Беларусі. У Даўгінаве і Будславе запланаваны ўрачыстыя мерапрыемствы, якія надоўга запомняцца і мясцовым жыхарам, і рэтра-аматарам.

### Якое рэтра зможаце ўбачыць

Гледачы ўбачаць сапраўдны музей на колах, які збярэцца ў Беларусі з усяго свету. Фіны абяцалі прыехаць на «Яве» 1965 года, якую зімой можна было абсталяваць лыжамі. Калекцыянер з Балахны прывязе матацыкл-рыкшу, папулярны ў Індыі. З Латвіі прыедзе каманда з 15 рэтра-аматараў.

Галоўнае, што абяцаюць арганізатары, – атмасфера свята, у якую вы акунецеся на фестывалі.

Для дарослых гледачоў матацыклы нагадаюць маладосць. А моладзь дакранецца да гісторыі тэхнікі.

Госці змогуць сфатаграфавацца з рарытэтамі, праверыць эрудыцыю пры ўдзеле ў вiктарыне, падтрымаць матацыклістаў, якія будуць удзельнічаць у конкурсах.

### Дзе можна будзе паглядзець на рэтра-матацыклы

Прыпынак у Даўгінаве запланаваны на 12:00 – 13:30. У Будславе – на 14:00 – 15:30.

Час можа крыху карэктавацца.

Уваход на свята свабодны.

**Паводле паведамлення арганізатараў фестывалю «Кола часу».**



### У Мядзеле зноў пабягуць па вадзе

МЯДЗЕЛ

У Мядзеле 28 ліпеня пройдзе «Водны забег». Праводзяць яго ў другі раз. Мерапрыемства прысвечанае штогадоваму святу – Дню возера.

Месцам правядзення забегу стане бераг возера Мястра. У праграму спаборніцтваў уключаны дыстанцыі 500 метраў, два і пяць кіламетраў. Прадугледжаны дзіцячы забег на 250 метраў (для дзяцей 5-6 і 7-8 год).

Забегі будуць праходзіць па вадзе на глыбіні 40-60 сантыметраў.

Па звестках сайта 42195.by, на сярэдзіну тыдня ўжо зарэгістраваліся 156 удзельнікаў.

### Пройдзе футбольнае сямейнае свята

СМАРГОНЬ

Асацыяцыя «Беларуская федэрацыя футбола» сумесна з федэрацыяй футбола Гродзенскай вобласці і сектарам спорту і турызму Смаргонскага райвыканкама правядуць сямейны футбольны фестываль «Тата, мама, я – футбольная сям'я!». Пройдзе ён 24 чэрвеня ў мікараёне Заходні на стадыёне ДЮСШ па футболе. Пачатак – у 10:00, паведамляе сектар спорту і турызму Смаргонскага райвыканкама. Арганізатары фестывалю падрыхтавалі падарункі ўсім удзельнікам.

**Аддзел інфармацыі.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Возера ў Мядзельскім раёне, уваходзіць у Нарачанскую групу. Размешчанае на поўдні ад райцэнтра, каля вёсак Круці, Азаркі, Шыкавічы. Водапрыёмнік балотных водаў, злучанае з Мястра.
3. Сярэднявечныя алхімікі мелі паняцці элементалій, ці духаў стыхій. Саламандры – духі агню, ундзіны – вады, сільфы – паветра. Як называлі духаў зямлі?
5. Адна асобная састаўная частка ланцуга; кольца.
7. Падабраныя і прыгожа складзеныя ў пучок кветкі.
8. У адным артыкуле гэты напітак называлі 60-працэнтнай вадой.
11. Карцёжная гульня, распаўсюджаная ў Англіі і ў Амерыцы.
13. Мараплаўцы эпохі Вялікіх геаграфічных адкрыццяў мелі патрэбу ў іх ледзь не большую, чым у прэснай вадзе. Імі напаўнялі трумы, і яны месяцамі захоўвалі харчовыя якасці. Іх называлі кансервамі, якія падарыў сам Бог.
14. Пра што ідзе гаворка: «Яны чырвоныя? – Не, чорныя. – А чаму белыя? – Таму што зялёныя».
15. Прадстаўніку гэтай прафесіі неабходна было насіць бараду, таму што ў той час не было тэрмометраў.
16. Знак у выглядзе рыскі, які ўжываецца пры пераносе часткі слова ў наступны радок.
19. Прамысловае прадпрыемства, звычайна буйное.
20. Адзін доктар з Адэсы паехаў у Боснію і лячыў там мясцовых «вакуумнай тэрапіяй». Што выкарыстоўваў доктар?
21. Паветраны шарык у вадзе або іншай вадкасці.
22. Гэты беларускі дзеяч жыў у Вішневе. Вядомы тым, што стаў адным з заснавальнікам навуковай крытыкі Бібліі.
24. Пачуццё пачцівасці, выкліканае прызнаннем высокіх якасцяў, заслуг, важнасці.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. На гэтым паверсе найчасцей выклікаюць ліфт.
4. Праследаванне таго, хто ўцякае.
5. Першы мароз, першы снег; пачатак зімы.
6. Вінакурны завод; вінакурня.
9. Смуглы, цёмны колер, які набывае скура пад уздзеяннем сонечных промняў.
10. П'еса Аляксея Дударава, дзе галоўныя героі – Гастрыт, Ганна і Мульцік.
12. Як звалі сястру з казкі Андэрсана «Дзікія лебедзі».
14. Здарэнне, выпадак.
15. У тэлефоне зверху ўніз, у калькулятары знізу ўверх.
17. Від спорту з самым лёгкім мячом.
18. Прачынаюцца яны так. Спачатку – разведчыкі. Прабіраюцца наверх, грэюцца на сонцы, а калі панцыры награваюцца, спяшаюцца ўніз і прыносяць часцінку цяпла спячым сябрам.
21. Каштарыс даходаў і расходаў.
22. «Сіняя» гароднiна.
23. Адтуліна ў радужнай абалонцы, праз якую пранікае святло ўнутр вока.

## Адказы на крыжаванку з №24

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Квіток. 4. Вадалей. 5. Лыч. 7. Ваза. 8. Люстра. 10. Вітрына. 11. Папарадзь. 14. Жаўток. 15. Удар. 16. Луста. 17. Жывёла. 20. Лямант. 22. Келіх. 24. Ляда. 25. Атрута. 26. Жменя.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Кіпа. 3. Жанчына. 6. Жалейка. 9. Шчара. 12. Відэлец. 13. Зуброўка. 17. Жорны. 18. Слядах. 19. Венік. 21. Вокладка. 22. Кілбаса. 23. Ажэшка. 24. Латынь. 26. Жыла. 27. Свечкі.

## Мінскі абласны драматычны тэатр. Рэпертуар на чэрвень



**У ГОНАР ДНЯ ЎСЕНАРОДНАЙ ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ**
**«Памяць, за сабой пакліч...»** 12+ (музычна-драматычны спектакль)
22 чэрвеня – у 12:00

**СУМЕСНЫ МІЖНАРОДНЫ МУЗЫЧНЫ ПРАЕКТ: БЕЛАРУСЬ-ІТАЛІЯ-ЛІТВА-РАСІЯ**
**«Вечар оперных арый»** 14+
24 чэрвеня – у 20:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

*Маладзечна, вул.Чкалава, 7.*
Кантактныя тэлефоны:
**52-30-66** – намеснік дырэктара,
**52-30-68** – галоўны адміністратар,
**52-30-65** – каса.
E-mail: modt@tut.by.
**www.theatre-modt.by**

УНП 600066659

## ● ГАРАСКОП 22-28 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** Ваша персона будзе прыцягваць да сябе павышаную ўвагу, вы можаце смела прымаць удзел у публічных выступленнях, яны прынясуць вам поспех і прызнанне. І не выпрабоўвайце лёс – усё ідзе, як трэба, і вам не трэба нічога рабіць.



**ЦЯЛЕЦ.** Добры час для адпачынку, можна і на моры. Па магчымасці, арганізуйце для сябе падарожжа. Можна ў якую-небудзь экзатычную краіну.



**БЛІЗНЯТЫ.** Цяпер вашы задумы будуць рэалізоўвацца так, як быццам у вас ёсць чарадзейная палачка. Аб такіх выніках сваёй дзейнасці вы нават і не марылі.



**РАК.** Вас чакае энергетычны ўздым, які забяспечыць вам добры настрой. Час спрыяльны для рамонтных спраў і перамен.



**ЛЕЎ.** Трымайцеся далей ад авантур, звязаных з лёгкім узбагачэннем і азартнымі гульнямі. Не распыляйцеся па дробязях, рабіце тое, да чаго ляжыць ваша душа.



**ДЗЕВА.** Гэты перыяд мае ўсе шанцы аказацца прыступкай на шляху да вашай запаветнай мары. Цяпер усё, пасеянае раней, абяцае даць усходы. Так што тых, хто доўга ішоў да сваёй мары, могуць чакаць прыемныя сюрпрызы.



**ШАЛІ.** У вас прачнецца фінансіст! Ваш мозг будзе працаваць дакладна, аперавацъ лічбамі і фактамі. І калі ў вас будуць думкі, як палепшыць фінансавы стан, то на свет з'явіцца цудоўны план, які дапаможа нядрэнна зарабіць. Смела плануйце адпачынак, рамонт, буйныя пакупкі. Вы вельмі патрабавальныя да сябе і да іншых. Вашы адносіны да людзей не пакідаюць месца эмоцыям. Больш праяўляйце свае пачуцці.



**СКАРПІЁН.** Калі што не атрымоўваецца – проста чакайце. Час усё расставіць па сваіх месцах і адкрые новыя магчымасці. Заўсёды верце ў тое, што ўсё будзе добра. А грошы трацьце з розумам, і яны будуць да вас вяртацца з задавальненнем.



**СТРАЛЕЦ.** Вам прыйдзецца няпала папрацаваць, але ў вас будзе нямала важкіх падстаў ганарыцца сабой. Аўтарытэт узрастае, з вашым меркаваннем лічацца мудрыя, з досведам, ды і проста важныя людзі. І нікому не навязвайце сябе: тыя, каму вы сапраўды патрэбны, знойдуць вас.



**КАЗЯРОГ.** Асабістыя адносіны не заўсёды складваюцца так, як хацелася б. З-за гэтага вы часам адчуваеце раздражненне. Але перш чым злавацца, пагаварыце з блізкім чалавекам: кампрамісы абавязкова знойдуцца.



**ВАДАЛЕЙ.** Ваша папулярнасць павышаецца не толькі на рабоце, але і далёка за яе межамі. Нечакана з'явяцца даўнія знаёмыя, пра якіх вы даўно ўжо і забыліся. Магчыма, яны чакаюць ад вас нейкай паслугі, але і самі змогуць дапамагчы. Гэта добры знак. А яшчэ вы прыцягнеце да сябе ўвагу супрацьлеглага полу, таму сумаваць не прыйдзецца. Прыглядзьцеся, магчыма, вы адшукаеце родную душу.



**РЫБЫ.** У вырашэнні любога пытання прыслухоўвайцеся да свайго сэрца, умейце пачуць, што «кажа» інтуіцыя, развівайце яе, і тады ў вас многія пытанні вырашацца самі па сабе. Вы не застанецеся без падтрымкі звыш, калі возьмецеся за сур'ёзнае навучанне ці пастараецеся ўладкаваць сваё ўласнае жыццё.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 1 | | | | | 4 | | |
| | | | | 8 | 2 | 3 | 1 | |
| 4 | | 9 | | | 1 | | | |
| | 2 | | 9 | 5 | | | | |
| 7 | | | | | 8 | | | 3 |
| | 5 | | | 6 | 3 | | | |
| 8 | | | 3 | | 7 | 1 | | |
| 5 | | 7 | | | 6 | | | |
| | 4 | | 8 | 2 | | 6 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


● НАДВОР'Е

**23 чэрвеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +19 / +15 | | +14 / +16 | | +16 / +16 | | +12 / +17 | |
| | 735 | ↘ 5 | 738 | → 3 | 737 | → 6 | 743 | ↗ 5 |
| Вільня | +17 / +18 | | +11 / +19 | | +12 / +16 | | +11 / +14 | |
| | 742 | → 5 | 743 | ↘ 3 | 743 | → 3 | 749 | ↗ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |


Усход 4.38
Захад 21.51
Даўжыня дня 17.13


Усход 16.39
Захад 2:33
Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература +5,7°С у 2014 годзе
Максімальная тэмпература +30,0°С у 2000 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 46,3 мм у 1997 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

● Пра каго паэт з Вілейкі Уладзімір Цанунін сказаў: «Бадай не знойдзецца ў прыродзе асілкаў большых, чым яны»? Каб даведацца адказ, чытайце ў наступным нумары рэцэнзію Барыса Манцэвіча на новую кнігу паэта.



## У Смаргоні апостальскі нунцый абдымаўся з мядзведзем

СМАРГОНЬ

**Падзея адбылася 16 чэрвеня.**

На пачатку свята пад гукі аркестра гасцей прывітала моладзь у нацыянальных строях, а такама... мядзведзь, але сімпатычны і нястрашны, які з'яўляецца сімвалам Смаргоні.

Напрыканцы святой імшы апостальскі нунцый арцыбіскуп **Габар Пінтэр** перадаў ксяндзу **Віктару Гайдукевічу** і ксяндзу **Юзафу Занеўскаму** асабістыя віншаванні ад папы Францішка.

**Паводле catholic.by.**

## У Астраўцы рыхтуюць адкрыццё ФАКа

АСТРАВЕЦ

**«Гроднапрамбуд» пачаў работы над аб'ектам два гады таму.**

Наведнікаў чакае 25-метровы басейн, прасторныя спартыўная і трэнажорная залы, паведамляе «Гродзенская праўда».

У мужчынскім і жаночым аддзяленнях лазні будзе басейн на дзесяць метраў даўжынёй. Аматараў пару чакаюць саўны. Таксама пачне працу кафэ.

У штаце ўстановы будзе каля 60 чалавек персаналу.

## На Мядзельшчыне абновяць школу і ФАЦ — інвестпраграму адкарэктавалі

МЯДЗЕЛ

Змены ў інвестпраграме Мядзельскага раёна зацверджаны рашэннем Мядзельскага раённага Савета дэпутатаў, паведамляе mlyn.by.

За кошт сродкаў раённага бюджэту зробяць капрамонт з элементамі мадэрнізацыі Крывіцкага вучэбна-педагагічнага комплексу дзіцячы сад – сярэдняя школа. Выдзеляць грошы на рэканструкцыю спартыўнай пляцоўкі фізкультурна-аздараўленчага цэнтра.

**Аддзел інфармацыі.**

● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Мяне заўсёды здзіўляў той факт, што ўсіх грошай зарабіць нельга, а прапіць можна.

***

– Ленка! Выходзь за мяне замуж?
– А раніцай працверазееш і перадумаеш!
– Клянуся, не працверазею!



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці можа ў дэкрэтным застацца тата?



**Алег Гарбуноў, дырэктар будаўнічага магазіна, Смаргонь:**
– Часам бацька можа выхаваць дзіця лепш, чым маці. Палавая прыналежнасць не можа штосьці гарантаваць. Усё залежыць ад чалавека. Хто больш зарабляе – той і не сядзіць у дэкрэтным, трэба ж на нешта жыць.



**Таццяна Самаль, кухонны работнік, Хажова:**
– Не даверыла б дзіця нікому. Як глядзіць яго мама, не змажа ніхто. Яна адчувае, калі дзіцяці кепска. Бацька з дзіцем можа застацца, але пазней. У час інтэрнэту таты больш сядзяць у гульнях, чым дзеці. Тата павінны грошы зарабляць і дапамагаць выхоўваць дзіця.



**Аляксандр Шыманскі, інжынер, Маладзечна:**
– Бацька маці не заменіць. Але калі спатрэбіцца ў нейкай жыццёвай сітуацыі даглядаць малое, ён зможа гэта зрабіць, а ў сучасных умовах гэта рабіць не цяжка. Задача бацькі забяспечыць дах над галавой, ежу на стале і бяспеку. Так было тысячу год таму, спадзяюся, так будзе і далей.



**Валянціна Мамай, пенсіянерка, Вілейка:**
– Адпачынак да трох год лепш даваць маме. Тата павінны быць здабытчыкам у сям'і.



**Лідзія Радзівіловіч, медсястра, Маладзечна:**
– Добрая ідэя, калі згодныя абое бацькоў. Такі падыход добры, калі ў маці не вельмі цяжкая праца і больш прыбытковая. Да трох год дзіця павінны выхоўваць і тата, і мама, каб даваць больш увагі. А дэкрэтны некаторым патрэбны і да пяці год. І тата, і мама павінны ўдзяльнічаць у жыцці дзіцяці.



**Кацярына Капцюг, менеджар па продажах, Маладзечна:**
– А чаму б і не, калі абое згодныя? Ведаю бацьку-адзіночку, які выгадаваў дачку з двух месяцаў. Сяброўкі кажуць, што трох год дэкрэтнага мала. Галоўнае, тата павінны клапаціцца і любіць сям'ю. І грошы ніколі не бываюць лішнімі, пра іх не варта забывацца.



**Алеся Крупская, медсястра, Маладзечна:**
– Лепш дзіця даглядаць абаім бацькам. Калі тата тalковы, можна даверыць і яму. Але галоўнае, бацька павінны паклапаціцца, каб сям'я была забяспечаная.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№25 (1208) 22.06.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 289. Падпісана ў друк у 9.00 21.06.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by .**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.